# Ніва

## БЕЛАРУСКІ ТЫДНЁВІК

№ 26 (905) ГОД XVIII БЕЛАСТОК 1 ЛІПЕНЯ 1973 г. ЦАНА 60 гр.





# Ад сялян Гайнаўскага павету



ГАВОРЫЦЬ НАМЕСНІК СТАРШЫНІ ПА СЕЛЬСКАГАСПАДАРЧЫХ СПРАВАХ ПРЭЗІДЫУМА ПРН У ГАЙНАЎЦЫ, МАГІСТР ІНЖЫНЕР ВАЦЛАЎ ЦЭГЛЯРСКІ:

На жаль, я мушу пачаць ад таго, што Гайнаўшчына з'яўляецца бедным раёнам нашай краіны і наш падарунак у дажынкавы вянок не можа быць багаты. На Беласточчыне мы заўсёды заставаліся „першымі“ ад канца ў сям'і паветаў. Шмат ёсць прычын гэтага і нялёгка пералічыць усе. Ды не ў гэтым справа.

Найважнейшае, па-мойму, гэта тое, што **нашы сяляне рашылі не згаджацца надалей на ролю апошняга. Да 1980 года мы хочам зраўняцца з сярэднім узроўнем Беласточчыны.** Дзеля гэтага маем ужо распрацаваны план, які прадбачвае падоўжаны крок у нашым маршу наперад. І гэта быў бы наш асноўны падарунак у сёлетні дажынкавы вянок.

Перад намі шэсць гадоў напружанай працы. Не, гэта не замнога, бо ў сельскай гаспадарцы цудоўных пераўтварэнняў не бывае, ды хлебаробы з іншых паветаў таксама не будуць стаяць на месцы і спакойна чакаць, пакуль мы іх дагонім. Скажам, у Замброўскім, Высокамазавецкім ці ў Граеўскім паветах намнога раней дабіліся таго, да чаго мы імкнемся цяпер. Там і ўраджаі лепшыя, і вышэйшае прымяненне мінеральных угнаенняў, і зямлю там вышэй цэняць.

Аднак мы не пабаяліся паставіць нашым гаспадарам гэту далёкасяжную мэту, каб не быць апошнімі, найгоршымі, тымі, на якіх звяртаюць толькі тады ўвагу, калі трэба ўказаць на адмоўны прыклад.

Ужо цяпер, за апошнія два гады, сяляне на Гайнаўшчыне дабіліся значных поспехаў. Наглядаецца высокі тэмп развіцця нашай сельскай гаспадаркі. Асноўную ўвагу мы звяртаем на прымяненне высокіх дозаў мінеральных угнаенняў, на правідловае выкарыстанне і старанны догляд сенажацяў і пасбішчаў. Гэта таму, што мінеральныя ўгнаенні садзейнічаюць павышэнню ўраджаяў, а высакаякасная сенажаць стварае спрыяльную базу для жывёлагадоўлі.

Гэта ўсё не лёгка нам даецца. Асабліва ў раёне Нараўскай, Нараўкаўскай і Белавежскай гмін, а нават у перадавой Чыжоўскай гміне ў гэтым годзе штосьці сталася і тамашнія сяляне на час не закупілі сваіх дозаў штучных угнаенняў. Я не сумняваюся, што гаспадары з наваколля Чыжоў гадавы план выканаюць поўнасцю, бо гэта высокатаварны раён нашага павету і ўсё, што ў нас лепшае, выводзіцца адтуль.

Праграма падрыхтоўкі да дажынкавых урачыстасцей размеркавана на тры этапы. Першы этап закончыўся святкаваннем Першамая, другі працягваецца да Ліпеньскага свята і трэці этап канчаецца першага верасня, напярэдадні цэнтральных дажынкавых урачыстасцей.

На першым этапе прадбачвалі мы падрыхтоўку да пасяўной, тэрміновае правядзенне пасеваў высакаякасным насен-

Працяг на стар. 4

**„БЕЛАРУСКАЯ ПЕСНЯ-73“**



*Софія Цацэрка з Баброўнікаў. III месца ў катэгорыі салістаў фінальнага агляду.*

*Фота А. Карпюка*




**І ЎЗНАГАРОДА Ў КОНКУРСЕ ТППР У БЕЛАСТОКУ НА ЎСПАМІН АБ ПАБЫЎЦЫ Ў СССР.**

„Увага! Увага! Спецыяльны поезд дружбы падстаўляецца на тор..., пры пероне...“ — пачуліся лаканічныя словы з хрыплаватых перонных мікрафонаў на Гданьскім вакзале. Я стаяў у групе незнаёмых мне людзей, якія таксама чакалі, пакуль падставіцца поезд.

Поезд пад'ехаў. Я знайшоў трэці вагон, а ў ім месца нумар 29. Уздыхнуў з палёгкай, калі заўважыў, што атрымаў ніжняе месца. Трое мужчын размясціліся ў міжчасе на астатніх месцах. Адзін з іх без цырымоніі сказаў:

— Здаецца, што лёс спалучыў нас на час экскурсіі, дык варта, каб мы пазнаёміліся. Мяне завуць Мар'ян.

Пазней аказалася, што быў ён вышэйшым афіцэрам ЛВП. Такім чынам, мы пазнаёміліся. Другі з „першага паверха“ быў афіцэрам-пажарнікам і прадстаўляў адзін з нашых паветаў. Апрача мяне — прадстаўніка павятовай культуры, ніжняе месца заняў пан Стэфан — пенсіянер, дзеяч рад нарадовых, пражываючы ў Варшаве. Афіцыйная частка была закончана. Час на прыём. На стале, згодна з традыцыяй, паявіўся каньяк і „яжэмбяк“.

Нават не заўважылі мы, калі пачалі правяраць дакументы і афармляць усе тамажныя фармальнасці. Пачулі „Добраноц“ і „Доброй ночи“. Усе высунуліся праз вакно і глядзелі, як поўныя людзей вагоны, нібы дзіцячыя цацкі, падымаюцца ўгору, каб спакойна апусціцца на шырэйшыя восі.

У гэты момант мне прыпомніўся іншы Брэст, са жніўня 1944 года, калі я, цяжка паранены, ляжаў у афіцэрскай палатцы, чакаючы перавозкі ў глыбіню Расіі. Амаль 28 гадоў таму назад савецкі вайсковы лекар пасля аперацыі маёй нагі менавіта тут, у Брэсце, сказаў: „Герой, полячок. Молодец!“

**(Працяг на стар. 6)**




● Гарадскі аддзел БГКТ у Беластоку арганізаваў нядаўна цікавы вечар для моладзі пад загалоўкам „Мікрафон для ўсіх“. З рускімі, беларускімі і польскімі песнямі выступілі 8 асоб — удзельнікаў вечарыны.

● Рэгулярнае аплачванне членскіх складчын з'яўляецца адным з галоўных абавязкаў кожнага бэгэкатоўца. Гэтым справам шмат увагі павінны прысвячаць праўленні аддзелаў. Найлепш з аплачваннем членскіх складчын справа выглядае ў гданьскім аддзеле БГКТ. Там за 5 месяцаў гэтага года аплачаны складчыны ў 50%. У гарадскім аддзеле БГКТ у Беластоку — у 40%, у сямяціцкім аддзеле — у 33%. Апошняе месца па аплаце членскіх складчын займае сакольскі аддзел.

● Гайнаўскі аддзел БГКТ добра распаўсюджвае выдавецтвы ГП БГКТ. Там заўсёды прадаецца найбольш беларускіх календароў і кніжак нашых літаратараў, якія пішуць пабеларуску і з'яўляюцца членамі літаратурнага аб'яднання „Белавежа“, што існуе пры ГП БГКТ. Гайнаўскі аддзел ужо прадаў амаль 1000 грампласцінак з песнямі Міхася Забэйды-Суміцкага, якія былі выданы ГП.

● 16 чэрвеня адбылося пасяджэнне прэзідыума сакольскага аддзела БГКТ. Прысвечана было яно справам арганізавання беларускага народнага фэстыну і справам тэатральных калектываў з беларускім рэпертуарам.

● Рада прафсаюзаў ГП БГКТ з'яўляецца арганізатарам курса акардэаністаў. 18 чэрвеня 21 асоба здала экзамены з пройдзенага матэрыялу. Выкладчык Веслаў Дзюбінскі, а таксама члены экзаменацыйнай камісіі атрымалі кветкі ад дзяцей-музыкантаў. Ва ўрачыстым заканчэнні курса прынялі ўдзел таксама бацькі і кіраўнік арганізацыйнага аддзела ГП Надзя Даніловіч.

● 17 чэрвеня адбыўся народны беларускі фэстын у Літвінавічах у Сямяціцкім павеце.

● І ліпеня народны беларускі фэстын адбудзецца ў Рыбаках, 8 ліпеня — у Чыжах і 15 ліпеня — у Дубяжыне. (мх)

# Аб'ект „Барысаўка“

На забалочанай раўніне, ля шашы з Нарвы ў Гайнаўку ад 3 красавіка гэтага года грукочуць цяжкія землечарпалкі.

— Гэта, — інфармуе майстар будовы Ежы Жмінка, — меліярацыйны аб'ект **„Барысаўка“.** Яго плошча складае звыш 200 га, на якіх мы пракладзем дрэны і пракапаем 10 кіламетраў равоў для адплыву вады. Працу прадбачваем закончыць 31 ліпеня 1974 года. Вядома, калі ўсё пойдзе згодна з планам, бо ўжо цяпер выступаюць пэўныя цяжкасці, перш за ўсё не хапае нам людзей да працы, хаця зарабіць у нас можна звыш 3 тыс. зл. Работа акордная, ахвотных прымаем.

Тэкст і фота **В. Рудчыка.**



**ПРАЗ ТЫДЗЕНЬ У „Ніве“**


**■ Фотарэпартаж аб уручэнні Райску Крыжа Грунвальду ■ Сустрэчы з землякамі — размова з п/палк. др інж. Міхалам Сычэўскім ■ Пра матуральныя экзамены ў Бельскім беларускім ліцэі гаворыць дырэктар Аляксей Карпюк ■ Запрашэнне да дыскусіі над культурай ■ Пра гаспадарку Яна Дамброўскага з вёскіІсток у Гайнаўскім павеце ■ Футбалісты з Мокрага ■ Весткі з Грыгораўцаў, Белавежы, Новага Вострава, Дашаў і Падазеран ■ Песня „Błękitna tajga“.**

# Падзеі ◇ Здарэнні ◇ Факты ◇ Каментарыі ◇ Весткі

 СВЕТ

 БССР

ПОЛЬШЧА

 ВАЯВОДСТВА

## ВЫНІКІ ВІЗІТУ Л. БРЭЖНЕВА

Калі пішам гэту інфармацыю, не ведаем яшчэ зместу сумеснага камюніке, якое ўзгоднілі Л. Брэжнеў і Р. Ніксан. Аднак вядома, што візіт Генеральнага сакратара ЦК КПСС у ЗША працягваўся 7 дзён, што падпісана 11 пагадненняў паміж урадамі Савецкага Саюза і ЗША, што Л. Брэжнеў і Р. Ніксан правялі разам 30 гадзін размоў.

Былі падпісаны пагадненні аб супрацоўніцтве ў галіне сельскай гаспадаркі, аб супрацоўніцтве ў галіне транспарту, аб супрацоўніцтве ў галіне даследавання Сусветнага акіяна і агульнае пагадненне аб кантактах, абменах і супрацоўніцтве.

Бакі з задавальненнем канстатавалі значны прагрэс у развіцці гэтых адносін, дасягнуты на працягу мінулага года.

У часе сустрэч былі разгледжаны шляхі і формы далейшага развіцця гандлёва-эканамічных сувязей паміж абедзвюма краінамі ў шырокіх маштабах на доўгатэрміновай узаемавыгаднай аснове.

Прэзідэнт Р. Ніксан сустрэўся ў Белым доме з савецкімі журналістамі. „Мы вельмі задаволены дасягнутым прагрэсам у развіцці савецка-американскіх адносін, — заявіў Р. Ніксан. — Я думаю, што і праходзячая цяпер сустрэча на вышэйшым узроўні будзе не менш прадуктыўнай, чым перагаворы ў Маскве ў мінулым годзе”.

„Асабліва важна, — адзначыў Р. Ніксан, — што Прэзідэнт Злучаных Штатаў і Генеральны сакратар ЦК КПСС ужо ведаюць і разумеюць адзін аднаго. У мінулым годзе нам давялося патраціць нямала часу для таго, каб пазнаёміцца. Тое, што цяпер мы ведаем адзін аднаго, мае немалаважнае значэнне для поспеху перагавораў. У гэтым годзе мы пачалі справу значна хутчэй”.

## СУПРАЦОЎНІЦТВА КРАІН

Яркім прыкладам супрацоўніцтва краін-удзельніц СЭУ з'яўляецца будаўніцтва Дзеўненскага хімічнага комплексу — самай буйнай будоўлі Балгарыі ў бягучай пяцігодцы. Савецкі Саюз, Венгрыя, Чэхаславакія, ГДР прымаюць удзел у будаўніцтве новага завода кальцыніраванай соды, камбіната складаных мінеральных угнаенняў і іншых аб'ектаў у Дзеўненскай даліне. Комплекс мяркуецца ўвесці ў строй ужо ў 1973 годзе. Прадукцыя новых хімічных камбінатаў поўнасцю задаволіць патрэбнасці рэспублікі і будзе пастаўляцца ў сацыялістычныя краіны.

## АМЕРЫКАНСКІЯ ЭКСПЕРТЫ Ў В'ЕТНАМЕ

У пачатку мінулага тыдня прыбыла ў Ханой група амерыканскіх экспертаў, якая будзе кіраваць аперацыямі па зняццю мін, раскіданых у тэрытарыяльных водах ДРВ.

Аднаўленне Злучанымі Штатамі аперацый па размініраванню портаў і водных шляхоў ДРВ прадугледжана сумесным амерыкана-в'етнамскім камюніке, падпісаным 13 чэрвеня ў Парыжы. (ак)

## АБАВЯЗАЦЕЛЬСТВЫ ДАТЭРМІНОВА

Калектыў камбіната „Беларуськалій” у Салігорску выканаў сацыялістычныя абавязацельствы трэцяга года пяцігодкі па звышпланаваму выпуску мінеральных угнаенняў. З пачатку года дадаткова дадзена 50 тысяч тон угнаенняў, гэта столькі, колькі прадугледжвалася абавязацельствамі на ўвесь год. Намячаецца да канца года даць іх звыш плана яшчэ 15 тысяч тон.

## ДЫПЛОМЫ — ПЕРАМОЖЦАМ

За дасягненне высокіх паказчыкаў па ўкараненню навуковай арганізацыі працы ў 1972 годзе Мінскі трактарны завод удастоены дыплома прафсаюзнай арганізацыі і другой грашовай прэміі.

## ПАДАРОЖЖА Ў КАМЕННЫ ВЕК

Месцы будучага Вілейскага вадасховішча і вадасховішча Даўгаўпілскай ГЭС стануць аб'ектамі вывучэння беларускіх агхеолагаў. На месцах дзвюх новабудоўляў, перш чым вада залье гэтыя ўчасткі зямлі, вучоныя зробяць раскопкі помнікаў каменнага і бронзавага вякоў.

## А ПАМЯЦЬ ЖЫЦЬ БУДЗЕ...

На пераломе месяцаў чэрвеня і ліпеня грамадства Савецкай Беларусі заўсёды вяртаецца думкамі да 1941 года, успамінаючы народнае геройства, праяўленае ў барацьбе з гітлераўскімі захопнікамі.

З гэтай нагоды варта сказаць пра навейшую кнігу Уладзіміра Савіцкага — вядомага беларускага пісьменніка, які сваю творчасць прысвяціў адлюстраванню франтавых падзей. Лютасць вайны ведае ён па ўласнаму вопыту. Выдавецтва „Беларусь“ падрыхтавала ў гэтым годзе зборнік яго дакументальных апавяданняў „Ні мінуты спакою“. Пісьменнік паказвае стойкасць, патрыятызм, мужнасць — самыя лепшыя якасці салдатаў, абараняўшых чалавецтва ад фашызму.

## ПОСПЕХ БЕЛАРУСКАЙ ТАНЦАЎШЧЫЦЫ

На працягу дзевяці дзён адбываліся ў Маскве спаборніцтвы самых маладых і таленавітых прадстаўнікоў сусветнага балетнага мастацтва. Беларусь прадстаўляла Наташа Панава. — вучаніца заслужанай артысткі БССР Н. Младзінскай. Яна ўпэўнена пераходзіла з тура ў тур і паспяхова выступіла ў завяршальным дуэтным танцы. Аўтарытэтнае журы Другога Міжнароднага конкурсу артыстаў балету, якое ўзначальваў лаўрэат Ленінскай прэміі Ю. Грыгаровіч, адзначыла юную беларускую танцаўшчыцу дыпломам і прэміяй за акцёрскае майстэрства.

## ЦІКАВАЯ ПЛАСЦІНКА

Фірма „Мелодыя” выпусціла вялікі дыск пад назвай „Салісты Беларускага дзяржаўнага Вялікага тэатра оперы і балету”. Новая грампласцінка выканана ў стэрэафанічным варыянце, што дае магчымасць праслухаць у хатніх умовах канцэрт у выкананні самых выдатных беларускіх спевакоў. Канцэрт адкрывае спявачка Святлана Данілюк, вучаніца праслаўленай Зоі Гайдай. (вр)

## IX ПЛЕНУМ ЦК ПАРП

Адбыўся IX Пленум ЦК ПАРП, які разгледзеў задачы партыі, дзяржавы і народа ў пад'ёме творчых сіл народа для развіцця краіны. Была таксама прадстаўлена Пленуму інфармацыя Палітбюро пра найважнейшыя праблемы польскай замежнай палітыкі. Адносна першага пункту, то пасля Пленума быў апублікаваны ў „Трыбуне Люду” артыкул „Творчыя сілы народа“, які падсумоўвае дыскусію на Пленуме і ўказвае на вялікія рэзервы творчых сіл у нашым народзе.

## ПОЛЬСКА-САВЕЦКАЕ КУЛЬТУРНАЕ І НАВУКОВАЕ СУПРАЦОЎНІЦТВА

У Маскве быў падпісан шматгадовы план польска-савецкага культурнага і навуковага супрацоўніцтва на гады 1973—76. Гэта першы такі перспектыўны план паміж СССР і ПНР.

## КАНЦЛЕР АЎСТРЫІ Ў ПОЛЬШЧЫ

Па запрашэнню прэм'ера ПНР П. Ярашэвіча прыехаў у Польшчу з афіцыяльным візітам федэратыўны канцлер Рэспублікі Аўстрыі др Бруна Крайскі з жонкай. Па дарозе ў Варшаву ён пабываў у Катавіцах, Асвенціме і Кракаве.

## „ДНІ МОРА”

У сувязі з „Днямі мора” — святам усіх работнікаў марской гаспадаркі, у Шчэціне адбылася цэнтральная ўрачыстасць. Прысутнічаў і выступіў з прамовай член Палітбюро, сакратар ЦК ПАРП Ян Шыдляк. Прысутныя прывіталі таксама капітана К. Бараноўскага, які пасля падарожжа вакол свету прыплыў у Шчэцін.

Заслужаныя дзеячы марской гаспадаркі атрымалі высокія дзяржаўныя ўзнагароды. На ўрачыстасці прысутнічала дэлегацыя з Ленінграда.

## У СЕЙМЕ

На сваім апошнім пасяджэнні перад канікуламі Сейм ПНР прыняў пастанову, як выпрацоўваць і дзяліць фонд на ўзнагароды на прадпрыемствах, а таксама сацыяльны жыллёвы фонд. Газеты сцвярджаюць, што гэта вельмі важная і патрэбная пастанова. Сейм адобрыў працу ўрада за 1972 год.

## ПАСЛЯ XV ФЕСТЫВАЛЮ Ў ТОРУНІ

Ужо 15 раз адбыўся фестываль тэатраў Паўночнай Польшчы ў Торуні. „Трыбуна Люду” гаворыць пра зніжэнне ўзроўню гэтага фестываля, але адначасова піша: „...цёплыя словы трэба сказаць у адрас беластоцкага тэатра за дасціпную пастаноўку п'есы беларускага пісьменніка Андрэя Макаёнка „Трыбунал“... з добрымі ролямі Вітальда Галонзкі і Марыі Хадэцкай.”

## МАЛОЕ ЗАЦІКАЎЛЕННЕ ВЫШЭЙШЫМІ ТЭХНІЧНЫМІ ШКОЛАМІ

Як інфармуе „Трыбуна Люду“, у гэтым годзе незамнога кандыдатаў у вышэйшыя тэхнічныя школы. Што цікавае, найменшым зацікаўленнем карыстаюцца самыя сучасныя напрамкі ў гэтых школах, як: хімія, хімічная тэхналогія, а нават такі важны цяпер напрамак, як арганізацыя і кіраванне прамысловасцю. (вл)

## СУСТРЭЧА З ДЭЛЕГАТАМІ

Сакратар ВК ПАРП Я. Златажынскі сустрэўся з беластоцкімі вучонымі, якія будуць дэлегатамі Беласточчыны на Кангрэс польскай навукі. Старшыня рэктарскай калегіі праф. др П. Борань ад імя дэлегатаў праінфармаваў сакратара аб дасягненнях беластоцкай навукі. Беластоцкія вучоныя прадставяць на кангрэсе шэраг навуковых дасягненняў. Філіял Варшаўскага універсітэта прадставіць свае прапановы разам з Варшаўскім універсітэтам. Медыцынская акадэмія падрыхтавала восем прапаноў, а Вышэйшая інжынерская школа — дзве прапановы. Вучоныя спадзяюцца, што ўсе гэтыя прапановы беластоцкай навукі ўвойдуць у Кнігу дасягненняў польскай навукі і будуць выкарыстаны ў нашай гаспадарцы і грамадскім жыцці.

## ПЛЕНУМ РАДЫ ЖАНЧЫН

Нядаўна адбыўся пленум Ваяводскай рады жанчын пры ВК ФАН. Абмяркоўваліся задачы сям'і ў сучасным выхаванні. У дыскусіі ўдзельнічалі сацыёлагі і лекары, педагогі і дзеячы ТПД, прадстаўнікі жаночых арганізацый. Асабліва падкрэслівалася роля добрай сям'і ў агульным выхаванні моладзі.

## II АГУЛЬНАПОЛЬСКІ

Ад 24 да 28 чэрвеня ў Беластоку праходзіў II агульнапольскі конкурс салістаў лялькавых тэатраў. З'ехалася шмат гасцей з Польшчы і з заграніцы. Адкрыццё і заканчэнне конкурсу адзначана было двума вялікімі канцэртамі. Некаторыя акцёры выкарысталі пабыўку ў Беластоку на сустрэчы з малымі беластаччанамі. Такім чынам беластоцкія дзеці сустрэліся з балгарскай артысткай Соф'яй Няновай, якая выступіла разам з беластоцкімі акцёрамі ў „Казцы аб залатавалосай дзяўчыне“. Два асобныя прадстаўленні даў вядомы ўсім дзецям з тэлевізійнага экрана Я. Г. Анташэўскі, які стварыў сімпатычныя постаці Тэлесфора, Дзенцялінка і Панцэраванага.

## ГОСЦІ З КАЎНАСА

На Беласточчыне прабывала дэлегацыя каўнаскіх камсамольцаў. Госці пабывалі на прадпрыемствах Беластока, сустракаліся з працоўнай і школьнай моладдзю, наведалі моладзь у двух лагерах адпачынку.

## II МЕСЦА Ў КРАІНЕ

Будаўнікі з Ломжы заваявалі другое месца ў краіне ў спаборніцтве паміж будаўнічымі прадпрыемствамі на званне найлепшага прадпрыемства. Ломжынскае будаўнічае прадпрыемства атрымала ганаровыя дыпломы ад міністра будаўніцтва і прамысловасці будаўнічых матэрыялаў і ад старшыні Галоўнага праўлення прафсаюза будаўнікоў. (яч)




**Niedziela 1.VII.**

7.30 Program dnia. 7.35 TV Technikum Rolnicze: „Prace pielęgnacyjne w roślinach okopowych”. 8.15 „Przypominamy, radzimy”. 8.35 „Nowoczesność w domu i zagrodzie”. 9.00 „Świat, który nie może zaginąć” — film dok. ang. 9.25 „W starym kinie”. 10.25 „Żołnierska niedziela”. 10.45 „30 minut z Krzysztofem Baranowskim” („Klub Sześciu Kontynentów”). 11.20 Koncert niedzielny ze Szczecina. 12.25 Dziennik. 12.40 „Przemiany”. 13.10 Dla dzieci: Teatrzyk dla Przedszkolaków. 13.45 „Moja łajba („Pokochać wiatr”). 14.20 Losowanie Totolotka. 14.35 „Piosenka dla Ciebie”. 15.40 „Testament Barona” („Znaki zapytania”). 16.30 „Derby”. 17.15 Estrada Poetycka: A. Mickiewicz — „Sonaty Krymskie”. 17.30 Z cyklu: „Przyjąć czy odrzucić” — „Bardzo Młodzi Oboje”. 18.15 „Kryteria”. 18.30 „Wakacje Pana Polaka” — program estradowy. 19.20 Dobranoc. 19.30 Dziennik. 20.15 „Szajka z Lewandowego Wzgórza” — film fab. ang. 21.35 PKF. 21.45 Program rozrywkowy „Opowieści morskie”. 22.45 Magazyn sportowy.

**Poniedziałek 2.VII.**

15.20 Matematyka dla nauczycieli: „Zbiory i liczby”. 16.25 Program dnia. 16.30 Dziennik. 16.40 „Lato nad Szprewą” — film dok. NRD. 16.55 „Profile kultury”. 17.25 „Echo stadionu”. 17.55 TV Kurier Lubelski. 18.10 „Oferty”. 18.25 TV Kurier Warszawski. 18.45 „Eureka”. 19.20 Dobranoc. 19.30 Dziennik. 20.15 Letni Przegląd Teatru TV. St. Żeromski — „Ludzie bezdomni”. 22.00 „Przy wspólnym stole” — program ekonom. 22.50 Dziennik. 23.05 Na akordeonie gra Jerzy Jurek.

**Wtorek 3.VII.**

10.00 „Szajka z Lewandowego Wzgórza” — film fab. ang. 16.25 Program dnia. 16.30 Dziennik. 16.40 „Zew pieśni” — rep. z Krynicy (eliminacje przed festiwalem śpiewaczym im. J. Kiepury). 16.55 „Na miarę ambicji”. 17.40 TV Kurier Mazowiecki. 18.00 TELEFERIE. 19.10 „Przypominamy, radzimy”. 19.20 Dobranoc. 19.30 Dziennik. 20.15 „Polonez Ogińskiego” — film fab. radz. 21.40 „Kontakty” 22.10 Dziennik. 22.25 Kronika Mistrzostw Świata w szermierce.

**Środa 4.VII.**

10.00 „Polonez Ogińskiego” — film fab. radz. 15.20 Matematyka dla nauczycieli: „Zbiory i lczby”. 16.25 Program dnia. 16.30 Dziennik. 16.40 „Przez Afrykę” — film czechosł. odc. VI. 17.05 „Sylwetki X Muzy” — Jerzy Wroński. 17.35 „Informacje, Towary, Propozycje”. 17.55 „Jagym jechał od Kalisza” — rep. film. 18.25 TV Kurier Warszawski. 18.45 „Orbita” — mag. nauki i techniki krajów socjalistycznych. 19.20 Dobranoc. 19.30 Dziennik. 20.15 „Dyplomata i gangsterzy” — film ang. („Święty”). 21.05 PKF. 21.15 Program publicystyczny. 21.45 „Kabalista” — opera komiczna w I akcie z muzyką J. Elsnera. 22.40 Dziennik. 22.55 Wiadomości sportowe. Kronika Mistrzostw Świata w szermierce.

**Czwartek 5.VII.**

10.00 „Dyplomata i gangsterzy” film ang. („Święty”). 15.20 Matematyka dla nauczycieli: „Funkcje, równania i nierówności”. 16.25 Program dnia. 16.30 Dziennik. 16.40 Program publicystyczny. 17.10 „Gramy o telewizor” — teleturniej. 17.35 TV Kurier Mazowiecki. 18.00 TELEWIZJA MŁODYCH. 18.45 „Szansa w turystyce”. 19.10 „Przypominamy, radzimy”. 19.20 Dobranoc. 19.30 Dziennik. 20.15 „Sokół Maltański” — film fab. USA. 21.55 „Forum”. 22.35 Teatr Rozrywki: J. Hasek — „Portret cesarza” („Wieczór z Jarosławem Haskiem”) odc. III. 23.10 Dziennik. Wiadomości sportowe.

**Piątek 6.VII.**

10.00 „Sokół Maltański” — film fab. USA. 15.20 Matematyka dla nauczycieli. 16.25 Program dnia. 16.30 Dziennik. 16.40 „Nie tylko dla pań”. 17.10 Magazyn medyczny. 17.40 TV Kurier Warszawski. 18.00 TELEFERIE. 19.20 Dobranoc. 19.30 Dziennik. 20.15 „Szkice akrobatyczne” — program rozr. radz. 20.35 „Panorama”. 21.15 Teatr TV na świecie: G. E. Lessing — „Minna von Barnhelm”, spektakl TV NRD. 23.10 Dziennik. 23.25 Wiadomości sportowe. Kronika Mistrzostw Świata w szermierce.

**Sobota 7.VII.**

10.00 „Samotny człowiek” — film fab. USA. 15.40 Program dnia. 15.45 Program I proponuje. 16.05 TV Informator Wydawniczy. 16.30 Dziennik. 16.40 „Spotkania z przyrodą”. 17.05 „Godzina Orfeusza” — mag. muz. 17.50 Sprawozdanie z międzypaństwowego spotkania w lekkiej atletyce: Francja — Polska (z Paryża) 19.20 Dobranoc. 19.30 Monitor. 20.15 Festiwal Piosenki Żołnierskiej — Kołobrzeg 73. 21.45 Dziennik. Wiadomości sportowe. 22.10 „Samotny człowiek” — film fab. USA.

ТЭЛЕВІЗІЯ МІНСК

**Piątek, 29 czerwca**

8.30 Program dla dzieci. 11.15 Film dokumentalny. 14.25 Program dnia. 14.30 Dla młodzieży. 16.00 Nowiny. 17.30 Koncert z Leningradu. 19.00 Czas. 20.45 Program sportowy.

**Sobota, 30 czerwca**

7.00 Program dnia. 7.20 Nowiny. 7.30 Koncert. 8.15 Dla dzieci. 10.15 Film seryjny. 11.00 Przegląd międzynarodowy. 11.25 Filmy animowane dla dzieci. 12.15 Film fabularny. 16.00 Nowiny. 17.00 Piłka nożna (CSKA — „Zaria” Woroszyłowgrad). 17.45 Spektakl. 19.15 Czas. 20.45 Program sportowy.

**Niedziela, 1 lipca**

7.00 Program dnia. 7.20 Nowiny. 7.30 Dla dzieci. 8.00 Dla żołnierzy. 9.45 Film seryjny. 11.00 Program muzyczny. 11.30 Film fabularny. 14.45 Filmy animowane dla dzieci. 16.00 Nowiny. 17.00 Piłka nożna („Dynamo” Moskwa — „Ararat” Erywań). 17.50 Program estradowy. 19.00 Czas. 21.00 Program sportowy.

# БЕЛАВЕЖА

ОРГАН ЛІТАРАТУРНА-МАСТАЦКАГА АБ'ЯДНАННЯ ПРЫ ГП БГКТ № 174

*

ты дзесь з людзьмі
а я на востраве пустынным
і што б не крыкнуў я
тут будзе крыкам у пустое
далёка недзе
і даліны і айчына
і ўсё за мною маладое
чакае край на водгулле
на адгалосы
а я малюся як царкве дзяўчыне
шапчу шапчу
як клён ламлю галіны
дзяўчына сонца ты
ці можа ты зацьменне
ці уцякаць
ці бегчы да цябе як мага
і вечнасць тут
і тут імгненне
і голы факт і магія
прашу ўцякай
у сэрца майго ветразь
заве прастор далёкі і вятрысты
прастор як чара
і жыццё як чара
чыстая

*Алесь Барскі*



*

Вусны поўныя горычы
А ў сэрцы боль
Знікае шчасце жаданае
Не дагоніш стралой

Можаш прыдумаць канец песні
Упала сняжынка-сляза
Чаго ты смяешся
Баліць галава

У гэтай цемры
Узнікае светлы вобраз
І развітання словы
Лёс як лісток
Незапісанай паперы.

*Уладзімір Гайдук*

*

Злоўлены прамень сонца
Цяжка ўтрымаць
Злоўлены прамень сонца
Кропля ртуці
Што ўцякае
З кожнай рукі
Злоўлены прамень сонца
Немагчыма ўтрымаць
Злоўлены прамень сонца
Чаму
Куды
Бяжыш?

*Надзея Артымовіч*

НА БЕЛЬСКАЙ ГАВОРЦЫ

## ПЭРЭД СВІТАНЁМ

жабы
    аж
до біэлых космыкуў
    (такіх шчэ сонных)
заслуханого нэба
выгафтовалі
        піэсьню
            біэлымі платкамі
        цвіэткуў
нэ забіэтэ поранком

*Зася Сачко*

## ВЕСНАВЫ ДОЖДЖ

Як гэта
ўсё
раптам
сталася.
Яшчэ
перад
мінуткай
сонейка
ззяла.
Аж тут
ні з таго,
ні з сяго
— дождж.
Спачатку
малы,
краплісты,
пасля
ўсё больш
і больш.
Засланіла
свет
дажджавая
радзюшка.
На твары
кроплі дажджу,
па шыі цякуць
і па барадзе.
А дождж
прыемны,
цёплы,
веснавы.

**І. Баравік**





* * *

Кругом ціха...
    лісцё шалясціць,
        спявае,
а я іду з табою
        — у Лазенках.
Лісце падала...
Вецер зносіў яго і яно
уплятала ся у твае валасы.
Цудоўная цішыня...
    Паэзія,
заклятая ў гісторыю сталіцы...
Тут Шапэн, тут цэлая Польшча —
гэта яе моцнае слава.
І слухаў гэтай цішыні я, а вецер
мазуркі прыносіў
тыя,
    якія Шапэн граў калісьці,
        будучы далёка ад краю.

**Юрка Харкевіч**

## КАМУ ПАДЗЯКУЕМ?

Каму мы дзякаваць павінны,
Што ўся зямля зіхціць святламі?
Табе, вучоны!
Што высцеліў дарогу ў космас
Святлістым поглядам ракеты.
Ты, вучоны!
Хто сцяг трымаў у барбе, каб
Прамысловасць узнялася ў нас на крыллі?
Ты, вучоны!
Чыю праграму прачытаем
Тлустым шрыфтам?
Тваю, вучоны!
Хто нам паставіць помнік
З атомаў пад нябёсы?
Ты,
    гэта, ты вучоны!

**Ірэна Пучко**



## ПОДЫХ ВЯСНЫ

Цягнуцца гусі чарадою
Над полем, хатамі, вадою...
Гамонкай, гутаркай жывою
Яны вітаюць нас вясною...

На небе сонца срэбрам ззяе,
Цікавым вокам пагладае,
Ці жаўранак не забывае
Ды трэллю поле заліваe...

Зяленіць траўка маладая
З сырой зямлі адна, другая
Глядзіць да сонца, як жывая,
Яе сцяблінка залатая...

Калі ў вачах вясну малюю,
Яе прыход душой пачую...
Ды, як сяброўку дарагую,
Люблю я думку веснавую...

**У. Шклярук**

## СОНЕЙКУ

Ад твайго смеху
зямля
закружылася,
зіма ўцякла,
гоман птушыны
чуецца,
званы б'юць,
аглядаюцца людзі,
дзеці
усміхаюцца,
песні
звіняць,
прыгажэюць
дзяўчаты,
трава зелянее,
дрэвы шумяць.
Толькі
— ранак у росах
і плачу
— я.

**Веранiка Леанюк**



Баюся хутара Барсуковіна. Занадта пуста там, каб было можна не ўспамінаць дзяцінства. Маці прывозіла мяне сюды, на сваю радзіму.

Пастарэлі толькі людзі; усё тут такое самае.

Нават Пронччыха крычыць гэтак сама з сяней:

— Шашок!... Куды прэшся, сатана! — яе твар, бы вараная груша.

За парог лезе карова, над збітым рогам мухі. Куры жвава нешта смакуюць, певень па-шуляцку пазірае.

Выйшла дзяўчына, якая нарадзілася не за маёй памяці. Яна зняла з парканіны высахшы цадзільнік: худая шыя, загар і звычны ўзмах рукі. Глянула на гасцінец. Па-жаночаму боязна, сур'ёзна, і я зразумеў, што бачу сястру Мірці.

„Божа мой, было гэта 25 гадоў таму назад! — падумаў я. — Няўжо дваццаць пяць?". Аднаго лета пабіўся за Мірцю з трынаццацігадовым пастухом, старэйшым за мяне.

Цяпер я пайшоў да свайго хроснага бацькі з намерам застацца наначь, хаця мог яшчэ паспець на вечаровы аўтобус.

Ведаў, што вымасцяць мне пасцель на сухім сене ў гумне, і застануся я са сваімі думкамі. Мне хацелася выснiць загарэлае цела Мірці, прапахлае жывіцаю і лесам. Бурштынавае цела. Быццам разбойнік, які прыйшоў на месца свайго злачынства, я захацеў убачыць Мірцю ў тым жа гумне, у якім гуляў з ёю ў схованкі, цешачыся, што яна паабяцала пацалаваць мяне. Папісквалі мышы.

Зашахацела асіна. Яе шмат на лузе Радэля, на гэтай яго козіцы, дзе дзікая трава і купішчы. Я па-дзіцячаму падпоўз да дзіры ў шчыце і прыглядзеўся баковішчыне: месяц каціўся на спатканне буры, хмары клубавалі бытта страшэнны дым з-над страшэннага пажару, маланка мігцела над прасекаю-трыбаю, пад старым лесам гаўкаў пугач, палохаючы зоркі-маргайкі, адганяючы іх на глыбіні неба.




Час ад часу тупацелі далёкія грымоты, і ад таго ўсё затаілася. Раптам здалося, што па пушчы імчыць смяротная паніка, тратуючы верхавіны; анямелая ад жаху прэ з труслівасцю герояў, якія ўбачылі дурноту смерці, яе агіднасць. Ад гарачыні твар памакрэў. — Мірця! — данёсся скрыгатлівы крык Пронччыхі. Я, не гледзячы ні бока, ні вока, ссунуўся па драбіне на ток і выбег з гумна: у вакне грамнічная свечка і нікога нідзе. Бог кінуў жмут бліскавіцаў, каб перакапаць, што крык з'яўляецца трызною. У хляве захроп конь і, хіба зосну, забляяла авечка. Вядро на жураве рыпацела: „ір-р-р... і-р-р-р... і-і-р-р... — і ласкала: „ц-я-я... ц-я-я... ц-я я-я-я-я-а"... Белым духам уздыбіўся вецер на пыльным гасцінцы, аж пабялелі бярозы і нагнуліся да ўцёкаў, з перапалоху не могучы зрабіць ні кроку. З-пад страхі вылецела нейкая птушка і, адурэлая, знікла ліха ведае куды.

Дождж ударыў густой шрапнеллю ля самых ног і я адступіўся за дзвярыну. Зусім блізка псыкнуў і выбухнуў пярун, зазвінела кола сячкарні.

Неспадзявана самому сябе я разапхнуў дзвярыны гумна і, цэлы ў мігценні, пабег да вакна з грамнічнай свечкай, пад хату Прончыка. Там, прыцiснуты начною цеменню да сцяны, глядзеў, як моліцца на каленях Пронччыха і нешта гаворыць да дачкі побач: у сястры Мірціны і вусны, Мірцін твар і загар — уся яна Мірця! І я пачаў шаптаць паўзабытую малітву, трызніць быццам бы нясу Мірцю на руках; яе бурштынавыя рукі на маёй шыі, а вусны-маліны расхілены ва ўсмешцы, а вочы-ягады чор-



# „Фасты” ў юбілейным годзе

Мінае дваццаць год з таго часу, калі ў 1953 годзе каля вёскі Фасты, што ля Беластока, распачалася будова найвялікшага на Беласточчыне і аднаго з найвялікшых у краіне тэкстыльнага камбіната „Фасты“.

Зараз „Фасты“ ў год выпускаюць 9 тысяч тон фарбаванай пражы, 3.100 кіламетраў сырых адно- і шматколерных тканін і інш. Усё гэта робіць калектыў фабрыкі, які налічвае 6 тысяч рабочых і служачых. Дбаюць яны не толькі аб колькасці прадукцыі, але і аб яе якасці — „Фасты“ маюць 12 знакаў першай якасці і 2 знакі найвышэйшай сусветнай якасці на прадукаваныя тут пражу і тканіны. Вырабы з фастаўскага камбіната прадаюцца ва ўсе куткі свету.

Аднак гэта яшчэ не задавальняе ўпаўне ні рабочага калектыву ні кіраўніцтва, а перш за ўсё нас, купляючых. Атракцыйных матэрыялаў з „Фаст“ або малавата, або яны мала атракцыйныя. І таму неабходна мадэрнізаваць камбінат.

Мадэрнізацыйныя працы распачаліся ад тонкапрадзільнага аддзялення камбіната. На месца старых, ужо аджылых машын уводзяцца сучасныя, вельмі прадукцыйныя прадзільныя машыны. Частка з іх — гэта машыны, закупленыя ў ФРГ, аднак большасць — гэта машыны айчыннай прадукцыі, выпускаемыя на англійскіх ліцэнцыях.

Генеральны выканаўца прац — „Копольматэкс“ з Лодзі стараецца магчыма салідна выконваць свае абавязкі. А весці такія мадэрнізацыйныя працы нялёгка. Трэба выкідаць старыя машыны, ставіць новыя, выпрабоўваць іх, а адначасова не спыняць прадукцыі аддзела. Праца ідзе нармальным рытмам. Згодна з планам, апошнія машыны павінны быць змантаваны да канца верасня гэтага года. Аднак выканаўца плануе апярэдзіць гэты план і выканаць яго да 22 ліпеня. Нармальная і поўная прадукцыйная здольнасць мадэрнізаванага тонкапрадзільнага аддзялення мае адбывацца ад студзеня 1974 года.

З нагоды юбілею рабочыя аддзела пастанавілі перапрацаваць грамадскім чынам па 6 гадзін кожны, што дало 1800 кілаграмаў дадатковай прадукцыі. А трэба ж сказаць, што гэта не адзінае абавязацельства рабочых з тонкапрадзільнага. У рамках сёлетняй акцыі, адгукаючыся на заклік Палітбюро, ЦК партыі і ўрада, фастаўскія тонкапрадзільнікі абавязаліся дадаткова выпрадукаваць 10 тон пражы. Абавязацельства выканалі — выпрадукавалі 13 тон. Іменна гэта прадукцыя ідзе на ўласны краёвы рынак, а дакладней да прадукцыі тканін „нінон“ і „кармен“.

Тэкст і фота **А. Карпюка**



**Луцыя Варончык і Юзэф Ланеўскі выпрабоўваюць толькі што ўстаўленую машыну.**




У кнігарні імпартных выданняў у Бельску-Падляшскім можна набыць наступныя кнігі на беларускай мове:

Колас Якуб, Збор твораў у чатырнаццаці тамах. Том I, 1972, стар. 562, цана 8 зл. 50 гр; том II, 1972, стар. 568, цана 8 зл. 70 гр.

Юбілейнае выданне, якое пачало выходзіць з нагоды 90-ай гадавіны з дня нараджэння вялікага беларускага пісьменніка. У першы том увайшлі вершы, напісаныя ў гадах 1898 — 1917, у другі — таксама вершы з гадоў 1917—1956.

Якімовіч Алесь, Канец сервітуту, 1968, стар. 224, цана 4 зл. 60 гр.

Аповесць прысвечана нялёгкаму жыццю сялянскага хлапчука Петруся і яго сям'і напярэдадні першай сусветнай вайны. Няспынная барацьбе сялян з панам за пашу на сервітуце, пакутам бежанцаў у часе імперыялістычнай вайны і грознаму і пераўтвараючаму ўсё жыццё 1917 году.

Даніленка Міхась, Запаветны акіян, 1972, стар. 248, цана 5 зл. 20 гр.

М. Даніленка вядомы чытачу перш за ўсё як паэт і аўтар апавяданняў, у тым ліку і для дзяцей. Апошняе выданне яго твораў змяшчае аповесць „Альпы“ пра суровыя дні апошняй вайны і жыццё палонных у Аўстрыі. Апрача гэтага ў зборнік увайшлі апавяданні, у цэнтры якіх знаходзіцца праблема адказнасці чалавека перад будучым, перад наступнымі пакаленнямі.

Хадкевіч Тарас, Даль палявая, 1972, стар. 456, цана 10 зл. 70 гр.

Гэты раман вельмі плённага сучаснага беларускага празаіка быў напісаны ў 1959 годзе. Прысвечаны ён цяжкаму першаму пасляваеннаму году. Тады іменна з руін і папялішчаў паўставала беларуская сельская гаспадарка. У цэнтры рамана постаць Паходкі — былога камісара партызанскага атрада, затым партыйнага арганізатара на машынна-трактарнай станцыі і старшыні калгаса.

Кнігарня імпартных выданняў у Бельску-Падляшскім ахвотна высылае кнігі за паштовым залічэннем. Запатрабаванні кіруйце па адрасу: „Dom Książki“, Bielsk Podlaski, ul. Mickiewicza 70, woj. białostockie.

(мг)

(Працяг са стар. 3)

# НАЧЛЕГ

ныя блішчаць ад радасці, ды грудзі дыхаюць хутка... Як добра быць патрэбным, як цудоўна быць жыццём другога чалавека! Мірця, я жыццё тваё! Дзе ж ты? На невядомай вуліцы невядомага горада... Шчаслівая тая вуліца, якая бачыць цябе штодзень. Я бачыў — пятнаццаць год і сто сорак чатыры дні... сто сорак чатыры...

Апамятаўся каля поўначы. Расплюшчыў вочы пасля кароткага сну: тапіўся ў рэчцы.

Ляжу на сене. Спалохана шэпчацца голле бярозы над страхою. У зелышчы за сцяною шуміць дождж, бліскавіцы скачуць па заполлі, па жытнёвых і аўсяных палетках. Дзесьці ў пушчы загудзела вузкакалейка, і я ўсведаміў сабе, што неўзабаве развіднее.

Заснуў зайцам пад мяжою: прачнуўся на гадзіну да ад'езду першага аўтобуса ў Беласток; да шашы паўгадзіны ходу.

Выйшаў, з нікім не развітаўшыся, цераз свежы бярэзнік дайшоў да берагу Слоі: на лапухах воднай лілеі зіхацела сонца. З-над дзявоцкіх віроў шуганула ў сінечу чародка дзікіх качак. Не даходзячы да мокрага зарасніку смуродзін, я прыпыніўся.

Мірця моцнымі, загарэлымі рукамі расчыняла коварат, Пранчык выязджаў у поле. Гусіным пер'ем бялела на Мірцінай галаве хустка.

Я хутка пайшоў. Вельмі хутка.

**Сакрат Яновіч**

Пачатак на стар. 1

# Ад сялян Гайнаўскага павету

нем, веснавы догляд сенажацяў, закладку культурных, добра абсталяваных пасбішчаў рознага тыпу, бо ў нас каровы яшчэ масава, без патрэбы нішчаць шмат добрай травы, якая магла б пераўтварацца ў малако.

У той час мы шырока агітавалі сялян прымаць удзел у конкурсе „Беластоцкая вёска — гаспадарная і культурная”. У выніку гэтага 91 вёска дэкляравала свой удзел у гэтым конкурсе. Каб мець болей поўнае ўяўленне, пазнаёмцеся, калі ласка, вось з гэтай табліцай, якая ілюструе ўдзел паасобных гмін нашага павету ў конкурсе „Беластоцкая вёска — гаспадарная і культурная”.

| Гміна | Колькі вёсак прыступіла | Колькі сялян змагаецца за званне | |
|---|---|---|---|
| | | майстра | прыкладнага гаспадара |
| Белавежа | 6 | 3 | 7 |
| Чаромха | 4 | — | 29 |
| Чыжы | 11 | 46 | 83 |
| Дубічы | 17 | 73 | 93 |
| Гайнаўка | 15 | 49 | 154 |
| Кляшчэлі | 9 | 68 | 150 |
| Нараў | 19 | 17 | 144 |
| Нараўка | 10 | 11 | 59 |
| Разам | 91 | 267 | 719 |

Як бачыце, конкурс стаў даволі папулярным. Мы вельмі лічым на яго ўдзельнікаў. Яны ўласнай практыкай паказваюць сялянам-аднавяскоўцам, як трэба правідлова гаспадарыць.

У нашых вёсках шмат чаго змянілася. Яны на многа папрыгажэлі. Наведайце Сухавольцы, Чыжы, Грабавец і іншыя нашыя вёскі. Новыя платы, часта жывапісная агароджа з жалезных прутоў, усюды чысціня і парадак. Адноўлены крамы і вясковыя клубы. Пастаянна недзе ўзнікаюць усё новыя мастацкія, пераважна народныя калектывы. Вось у час першамайскай акадэміі давялося мне паглядзець народны хор з Белавежы. Я ім захапляўся. Там выступаюць старэйшыя людзі. Трэба падзякаваць белавежскім дзеячам БГКТ за тое, што пастараліся арганізаваць такі хор.

Цяпер мы змагаемся за тое, каб паспяхова сабраць ураджай, каб не змарнаваўся аніводзін каласок. Гэта асноўныя заданні другога і трэцяга этапаў падрыхтоўкі да дажынак. З малых спраў складаюцца вялікія. Яны ў нас падпарадкаваны нашай асноўнай мэце: **дагнаць найлепшых у ваяводстве.** І гэтыя намаганні мы перш за ўсё складаем у падарунку ў дажынкавы вянок.

Запісаў **Віктар Рудчык**
Фота аўтара

# Чыя віна?

Нядаўна наведалі мы вёску Адрынкі Гайнаўскага павету і ў гутарцы з жыхарамі гэтай вёскі даведаліся, што сюды неахвотна прыязджаюць пісьманосцы. Не даходзіць сюды ў пару таксама свежая прэса. Не знойдзем яе і ў мясцовым клубе „Руху“. Пісьманосцы заглядаюць сюды праз дзень-два, а то бывае і праз тры. У Адрынках ёсць падпісчыкі на штодзённыя газеты і яны вымушаны чытаць старую прэсу. А вядома, што паштовыя ўстановы абавязаны тэрмінова даручаць ці пасылку, ці часопіс. Дык можа нараўская паштовая ўстанова захоча выясніць, чаму ў іх так ёсць. Можа ў гэтым выпадку віна толькі пісьманосца, які абыякава адносіцца да сваіх абавязкаў? (ця)




# Нашаніўская пара

ЛІТАРАТУРНАЯ ПУБЛІЦЫСТЫКА — ЗАКАНЧЭННЕ

Апрача артыкулаў, прысвечаных пасобным творам або зборнікам пісьменнікаў, у „Нашай ніве“ (1911 г. № 44) павілася публікацыя з цыкла „З нашага жыцця“. Аўтар публікацыі, выступаючы пад ініцыяламі „а-на-а“ паведамляў, што пецярбургская выдавецкая беларуская суполка падрыхтоўваецца да выдавання пастаяннага літаратурна-грамадскага перыёдыка „Маладая Беларусь“. Публіцыст інфармаваў аб тым, што перыёдык будзе мець літаратурны, грамадскі і навуковы раздзелы. Паводле аўтара, такі перыёдык павінен адыграць грамадную ролю ў развіцці беларускай літаратуры і беларускай крытыкі. Аўтар спадзяваўся, што новы перыёдык стане органам маладых творчых беларускіх сіл: „Сучасная беларуская мысль выліваецца на паперу ў „Нашай ніве”, календарах і беларускіх кніжках. З гэтых выданняў кожнае мае сваю вядомую мэту. Да гэтай мэты нагібаецца і іх істота. Аднак усё болей і болей знаходзіцца між прабудзіўшыміся беларусамі думак і твораў, для каторых з розных прычын няма месца ў сучасных беларускіх выданнях, і многа ёсць такіх людзей, каторых сучасныя беларускія выданні мала здавольваюць. Вось з гэтай то прычыны ўжо даўно чуецца патрэба такога выдання, дзе б маглі знайсці прыпынак дасюль бяздомныя творы, дзе б магла падзяліцца сваімі думкамі ўся Маладая Беларусь“.

Пасля паяўлення ў 1912 годзе першага нумара перыёдыка „Маладая Беларусь“ „Наша ніва“ змясціла рэцэнзію, прысвечаную гэтаму нумару. Тон рэцэнзіі быў непрыхільны. Аўтару не спадабаўся графічны бок выдання, вольны тэмп падрыхтоўкі кніжкі, а таксама яе змест. Крытык даказваў, што перыёдык не споўніў тых надзей, якія з ім звязвалі і аўтары і чытачы. „Маладая Беларусь” не стала карцінай найважнейшых з'яў у беларускай літаратуры і думцы. Аўтар рэцэнзіі здзіўляўся, што амаль увесь нумар „Маладой Беларусі“ занялі два аўтары: Антон Навіна сваёй публікацыяй „На дарозе да новага жыцця“ і Купала сваім абшырным творам „Сон на кургане“. Крытык не мог пагадзіцца з тым, што многія пісьменнікі не знайшлі месца на старонках „Маладой Беларусі“.

Апрача актуальнага літаратурнага жыцця, крытыкі „Нашай нівы“ займаліся таксама беларускай літаратурай мінулага. Адносіцца гэта да літаратуры перыяду Вялікага княства Літоўскага. Першы артыкул, прысвечаны гэтым пытанням, паявіўся ў „Нашай ніве“ ў 1909 годзе (нумар 39). Тэматыка яго знайшла выраз ужо ў загалоўку: „Калі друкавалася першая беларуская біблія?“ Аўтар артыкула выясняў справы, звязаныя з друкарскай дзейнасцю Скарыны.

Даволі грунтоўны артыкул, прысвечаны літаратурнаму мінуламу, „350-летняя гадаўшчына друку ў Маскоўшчыне“ быў напісаны Властам і апублікаваны ў „Нашай ніве“ (1914, № 11—12). У гэтай публікацыі Власт даволі дакладна прадставіў гісторыю кнігадрукавання ў Маскве. Пры нагодзе адклікнуўся да спраў, звязаных з беларускім друкарствам. Успомніў Скарыну і Пятра Мсціслаўца, не абышоў таксама факту друку ў 1565 годзе ў Заблудаве „Учыцельскага Евангелія“.

У „Нашай ніве“ (1914 г., № 48) той жа Власт змясціў артыкул „Кроніка Вялікага князьства Літоўскага”. Аўтар публікацыі прыпамінаў, што ўрадавай мовай Вялікага княства Літоўскага была беларуская мова. Звярнуў ён увагу на тое, што хронікі гэтага княства напісаны прыгожай беларускай мовай, да якой павінны звяртацца сучасныя пісьменнікі. У хроніках бачыў Власт крыніцу пазнання слаўнага мінулага Беларусі. Паводле аўтара артыкула, перыяд Вялікага княства Літоўскага — гэта былі часы, калі беларускі народ жыў вольным нацыянальным жыццём.

Апошняй катэгорыяй публіцыстыкі, звязанай часткова з літаратурай, былі артыкулы-рэцэнзіі, прысвечаныя „Беларускім календарам“, якія друкаваліся ў апошнія гады нашаніўскай пары. Календары гэтыя заключалі ў сабе рознага тыпу матэрыялы і артыкулы. Знаходзіліся ў іх таксама літаратурныя раздзелы. Рэцэнзенты, між іншым, аналі-



Юзэф Альховік адкрывае ўрачыстасць. Злева — член экзекутывы ПК ПАРП Уладзімір Бельскі. Справа — начальнік гміны Рыгор Чарневіч і Веслаў Бах.



Дружкі ўбіраюць маладую.

## Свята вёскі

10 мая ў Шудзялаве мясцовыя ўлады гміны супольна з сакольскім аддзелам БГКТ арганізавалі традыцыйную ўрачыстасць, прысвечаную працоўным вёскі. Адкрыў яе сакратар гміннага камітэта ПАРП і адначасова старшыня гміннай рады нарадовай і дырэктар мясцовай школы Юзэф Альховік. З дакладам выступіў сакратар гміннага камітэта ЗСЛ, сакратар бюро гміны Веслаў Бах. Дакладчык гаварыў аб пераўтварэннях на вёсках, аб сельскагаспадарчых дасягненнях мясцовай грамадскасці, а таксама аб дзейнасці БГКТ і беларусах, якіх шмат жыве ў Шудзялаўскай гміне. Затым выступіў мастацкі калектыў з вёскі Снічаны з інсцэнізацыяй вясковага вяселля. Пасля на спецыяльна падрыхтаванай пляцоўцы распачаліся танцы.

Тэкст і фота **М. Хмялеўскага**



Удзельнікі ўрачыстасці з зацікаўленнем глядзяць на самадзейнікаў са Снічан.

# Імя генерала...

Да гэтых дзён рыхтаваліся чатыры гады. Чатыры гады дзень у дзень вялася ў найніжэйшых звеннях гарцэрства карпатлівая праца. Вышукоўвалі найдрабнейшыя весткі аб сваім героі. Героем гэтым выбралі сабе нашага земляка, вялікага арганізатара і чалавека, героя студзеньскага паўстання 1863 года і Парыжскай Камуны генерала Валерыя Врублеўскага.

Стараліся пазнаёміцца і з яго супрацоўнікамі, глыбей пазнавалі падзеі паўстання 1863 года на Беласточчыне. Здабыванне ведаў было падсумавана школьнымі і павятовымі конкурсамі, а затым і цэнтральным турнірам ведаў аб В. Врублеўскім асобна для сярэдніх і падставовых школ.

Нельга было не здзіўляцца, як вучні 6—7 класаў упэўнена адказвалі на пытанні нават аб сябрах В. Врублеўскага Браніслáве Шварцэ і Кастусю Каліноўскім, аб выдаваных імі часопісах „Мужыцкая праўда", „Гутаркі старога дзеда" і „Гутаркі двух суседаў".

У турніры ведаў аб В. Врублеўскім сярод сярэдніх школ першае месца заняла дружына Эканамічнага тэхнікума з Бельска, а сярод падставовых школ — дружына з Сямяціч.

У зборы матэрыялаў аб генерале Врублеўскім значную дапамогу нашаму гарцэрству аказалі беластоцкі аддзел Польскага гістарычнага таварыства і Музей Войска Польскага. Гэтыя ж установы арганізавалі ў дзень урачыстага прысваення харугвії імя В. Врублеўскага навуковую сесію аб генерале.

У гэты ж дзень, дапасаваны да Дня дзіцяці, адбыўся вялікі злёт моладзі. Ва ўрачыстай атмасферы намеснік старшыні Прэзідыума ВРН Р. Лазаровіч прачытаў пастанову Прэзідыума ВРН аб прысваенні імя ген. В. Врублеўскага Беластоцкай харугвії ЗГП.

Напярэдадні галоўнай урачыстасці ўдзельнікі злёту ўнеслі свой уклад ва ўпарадкаванне нашага горада — працавалі пры ўпрыгожванні беластоцкіх паркаў у Звярынцы і на Антонюку. Адбыліся таксама фестываль гарцэрскай песні, гарцэрскі патрульны бег і спартыўнае шматбор'е зухаў.

Вельмі прыемную нечаканасць зрабілі сваім сябрам па школе дзеці з малодшых класаў з бельскай беларускай „тройкі": Яны перамаглі трохразовага чэмпіёна гэтых спаборніцтваў — падставовую школу № 22 з Беластока і заваявалі першае месца. Для нас, для рэдакцыі, гэта не было нечаканасцю. Мы ўжо ў мінулым годзе сігналізавалі аб высокім узроўні спартыўнага навучання ў гэтай школе, аб адданай працы настаўнікаў фізічнага выхавання, асабліва Мікалая Шымчука. Таму сардэчна віншуем іх з заслужаным поспехам і жадаем ім утрымання першага месца ў наступных шматбор'ях.

Добрых вынікаў дабіліся бельскія дзеці таксама і ў II Ваяводскай алімпіядзе школьнікаў. Каманда падставовай школы № 3 з Бельска заваявала трэцяе месца па валейболу, а Васіль Раеўскі — вучань гэтай жа школы быў трэцім у бегу на 1000 метраў.

Гарцэрскі злёт надоўга застанецца ў памяці яго ўдзельнікаў. А ад 3 чэрвеня Беластоцкая харугвія ЗГП носіць імя вялікага беластачаніна ген. В. Врублеўскага. Гарцэры ўсіх дружын будуць далей паглыбляць свае веды аб жыцці свайго героя і вучыцца жыць па прыкладзе вялікага чалавека.

**Яніна Чэрнякевіч**
Фота аўтара

---

...завалі таксама каляндарныя літаратурныя тэксты.

З усіх папярэдніх адрэкаў, аб'яднаных загалоўкам „Літаратурная публіцыстыка", відаць, што не толькі мастацкія літаратурныя творы, але справы крытычнага аналізу або прынамсі інфармацыі аб іх займалі ў „Нашай ніве" істотную пазіцыю. Кіраўнікі „Нашай нівы", несумненна, разумелі, што не прызвычаены да мастацка-літаратурнай творчасці беларускі чытач будзе мець цяжкасці са зразуменнем істоты зместу, а тым больш формы гэтай творчасці. Літаратурная публіцыстыка якраз і выходзіла насустрач патрэбам у гэтай галіне. Як справілася з заданнем? Ці сапраўды наблізіла беларускага тагачаснага чытача да літаратурнага слова? Ці ўмела папулярызавала пісьменнікаў? Ці яе літаратурныя аналізы знаходзіліся на нізкім узроўні?

Цяжкія гэта пытанні і нялёгка на іх адказаць сёння. Аднак не можа быць сумненняў у тым, што літаратурная публіцыстыка наблізіла беларуса да літаратуры. У гэтым, між іншым, і заключаецца вялікая роля „Нашай нівы" як прапагандыста і літаратуры і тэарэтычных ведаў аб ёй.



Зухі з бельскай школы № 3 — пераможцы спартыўнага шматбор'я 1973 года са сваім трэнерам Мікалаем Шымчуком.




# У абдымках смерці

27 чэрвеня 1941 года, гэта значыць 32 гады таму назад, гітлераўскія войскі занялі Беласток. З іх прыходам пачаліся здзекі, расстрэлы мірнага насельніцтва горада. Гінулі ні ў чым не вінаватыя людзі. Найменшае падазрэнне нелаяльнасці да захопнікаў або паведамленне, што той ці іншы жыхар з'яўляецца камуністам — хапала, каб немцы арыштоўвалі, каб мучылі, каб расстрэльвалі.

28 жніўня 1941 года немцы забралі з хаты Ёзіка Жамойду, жыхара вуліцы Антанюкоўскай, выхадца з Паўднёвага Вострава, што на Сакольшчыне. Два тыдні ў беластоцкай турме над ім здзекаваліся, а 9 верасня яго і яшчэ 15 мужчын і 2 жанчыны немцы павезлі на расстрэл у Навасёлкі, якія знаходзяцца недалёка ад Беластока. Ехалі яны ў грузавіку, глядзелі адзін на другога, пабітых, абросшых барадамі, з пабыбіванымі зубамі і задавалі сабе страшнае пытанне: „Няўжо мы едзем на смерць?". Не ўсе былі пераканаы ў тым, што засталіся ім толькі мінуты жыцця, што гэтай прыгожай сонечнай раніцай прыйдзецца ім развітацца з белым светам. Але калі ў хвойніку затрымалася машына, калі іх там высадзілі, а немцы з аўтаматамі акружылі іх, усе ахнулі — стала ясна, што прыйшоў канец іх жыццю. „Паглядзіце, дзе вашае месца", — закрычаў адзін з гітлераўцаў, падганяючы іх да рову, у якім, быццам чэрві, варушыліся прыкрытыя зямлёй людскія целы. І раздаліся выстралы. І пачалі скочвацца ў роў няшчаснікі. Ёзіка Жамойду прывалілі два расстраляныя мужчыны. А Ёзік яшчэ жыў, дыхаў, чуў, як гарачая кроў яго сяброў цякла па яго галаве, барадзе, шыі. У галаве яго мільганула думка: „Не давай знаку жыцця".

Ёзік чуў, як немцы стралялі з рэвальвераў, дабіваючы раненых, а пасля найстрашнейшае, — як людзей пачалі валіць зямлю. Стала цяжка дыхаць.

Вярталася прытомнасць. Мінаў шок сустрэчы са смерцю. Прывезлі на расстрэл яшчэ адзін самаход людзей. Чутны быў віск, крык, плач і строкат аўтаматаў. Жамойдзе здавалася, што шмат там было жанчын. Іх, на шчасце Жамойды, расстрэльвалі ў іншым рове. Калі б у гэтым самым, Жамойда задушыўся б хутка пад дадатковым цяжарам.

Праз нейкі час усё заціхла. Ёзік Жамойда пачаў вылазіць з-пад нежывых, якія былі пад ім і на ім. Раптоўна знайшлося столькі сілы, што скінуў з сябе двух мерцвякоў з шырозна адкрытымі вачамі, якія быццам з зайздрасцю глядзелі на Ёзіка. А ён далей „мясіўся" па мёртвых і аднаму з іх расчаміў кулак, у які заціснуў ён калошу Ёзікавых нагавіц. Вылез Жамойда з рову і паўзком уцякаў з гэтага месца. Убачыў на полі людзей і пачаў да іх набліжацца. А выглядаў страшэнна ў закрываўленай вопратцы, з запечанай крывёй мерцвякоў на сваёй галаве і абросшым тварам. Людзі спалохаліся яго і ўцяклі. Немцы яшчэ раней пусцілі чутку, што ў гэты дзень будуць расстрэльваць псіхічна хворых з недалёкай Харошчы. Ёзік Жамойда дапляўся да нейкай хаты, але і там яго баяліся. Прасіў вады абмыцца. Хацеў пабрыцца і памяніць акрываўленую вопратку. З недаверам глядзелі на яго жыхары гэтай хаты. Аднак паставілі ваду і Ёзік памыўся. Калі далі брытву, каб пабрыўся, усе ўцяклі з хаты. Калі ён палажыў брытву, набралі да яго даверу. І ўрэшце Яніна Бакун усё зразумела. Пераканалася, што немцы расстрэльвалі не псіхічна хворых, але нічым не вінных, мірных жыхароў горада Беластока. Яна заапекавалася ім. Дапамагла дабрацца да людзей, якія аказалі Жамойду далейшую дапамогу. Пры дапамозе сям'і і добрых людзей Ёзік Жамойда прахаваўся ўсю нямецкую акупацыю. Пры народнай уладзе працаваў на чыгунцы ў Беластоку. Памёр ён сваёй смерцю ў 1957 годзе.

**Міхась Хмялеўскі**


Мінск. Плошча перамогі.

Пачатак на стар. 1

# Дарога

А мне было тады ўсяго 18 гадоў.

Поезд імчаўся ў бок Мінска, мае суседзі пахрапвалі, а ў галаве маёй клубіліся думкі і ўспаміны. Аб тым, як адзін з лягчэй параненых маёраў Савецкай Арміі аб'яўляў у палатцы палявога шпіталя: „Таварышы! Пачынаем міжнародны канцэрт. А ну, Валодзя, спявай, толькі па-польску!" І я спяваў. Кожны канцэрт мы канчалі песняй аб Волзе, роднай маці. Сярод рускіх я быў там адзіным паляком. Не былі мне яны аднак чужыя, не былі і тут, у Брэсце, не былі і на Волзе, у далёкім Саратаве.

Сярод гэтых успамінаў я заснуў.

Разбудзілі мяне галасы маіх сяброў па купэ. Я глянуў праз вакно. На прыгожым велізарным вакзальным будынку быў надпіс „Мінск". Дык гэта той Мінск?! Так. Тут менавіта, насупраць, у гэтай браме я пераклюўся. Тут бабуля памагла ўстаць інваліду, які вяртаўся на кастылях з саратаўскай бальніцы дахаты — на Беласточчыну. Быў тады канец 1944 года. Будынак вакзала выглядаў інакш. Цяпер на месцы тагачасных чорных чэлюсцяў відаць былі вялікія вокны і дзверы, а абсмаленыя сцены і цэглу пакрыў прыгожы бежавы тынк. Той вакзал, а ўласна кажучы, яго шкілет быў пусты і сумны, як цяжка параненая істота. Сённяшні вакзал быў сведкам радасці, здароўя, свежасці і гордасці. Залячыліся яго раны. Залячыліся і мае.

Поезд крануўся. А я стаяў і думаў. Нарэшце, Мар'ян гукнуў мне ў вуха: „Зачыні акно, бо мух у хату напусціш! І наогул, што ты так расчуліўся?" А спакойны пан Стэфан па-філасофску дадаў: „Як маеш, пан, штосьці на вантробе, то смела да нас". І я пачаў расказваць. За вокнамі мільгалі раўніны і пагоркі беларускай зямлі.

Пахмурным красавіцкім ранкам поезд набліжаўся да Масквы. Здавалася, што хоча ён паказаць нам як найхутчэй цудоўную сталіцу Краіны Саветаў. Кіраўнік поезда абвясціў па радыё: „Набліжаемся да Масквы. Прашу падрыхтавацца!" Праз паўгадзіны наш поезд спыніўся на маскоўскім пероне.

Сэрца маё забілася. Гэта ж тут 28 гадоў таму назад я сеў у перапоўнены салдатамі поезд, вяртаючыся з Саратава ў Польшчу. Усё тут змянілася. Вакзал радасны і гаваркі, тады на вакзале таксама была мітусня. Было шмат мужчын, адпраўляючыхся на фронт. Іх вочы і вусны, здавалася, паўтаралі за вакзальнымі плакатамі: „За радзіму! На Варшаву! На Берлін!" Кабеты ў ватоўках і валёнках праводзілі іх, беручы на сябе работу за сваіх мужоў, братоў, бацькоў і сыноў. Ну, досыць успамінаў!

Кароткае прывітанне, кветкі, абдымкі, — і вось мы ўжо едзем па гораду аўтобусамі. Наш вельмі мілы гід Крысціна расказвае, тлумачыць, жартуе і звяртае ўвагу на найцікавейшыя месцы.

І вось мы ўжо стаім у доўгай больш чым кіламетровай чарзе, каб аддаць гонар стваральніку Краіны Саветаў — Уладзіміру Леніну. Тады, 28 гадоў таму назад, па Чырвонай плошчы, уздоўж Крэмля, машынай Чырвонага Крыжа везла мяне шафёр-жанчына з вакзала на вакзал і гаварыла: „Глядзі! Гэта наш непераможны Крэмль. Не далі мы яго германцам. А Берлін і так возьмем!"

Да рэчаіснасці вярнулі мяне крэмлёўскія куранты. Была 12⁰⁰. Як пры дапамозе чарадзейскай палачкі, бліснулі сонечныя прамені, заліваючы золатам купалы недалёкай царквы. Не магу забыць гэтага моманту. Куранты, веснавое сонца, золата купалаў, — усё гэта я хацеў затрымаць у сваёй памяці на доўга, так, як затрымаў я ў памяці вобраз Крэмля са снежня 1944 года.

Ездзім, ходзім, аглядаем, ядзім, адпачываем. Немагчыма апісаць усяго. Тым больш, што і пяро маё — не пяро пісьменніка, а склад думак не літаратара, ды і папера не кіламетровая. Нашай групе давялося аглядаць павільён „Космас" на Усесаюзнай выстаўцы дасягненняў і тэхнічнага прагрэсу. Ва ўсім відаць тут размах чалавечай думкі, невычарпальнасць яго розуму. На выстаўцы намацальна адчуваецца пазнаванне Сусвету. Спутнікі, прылады, „Васток" з „касманаўтамі", гарызонты, дарогі завабёвання космасу, аўтаматы і навігацыйныя камплекты. Што значыў бы чалавек без гэтых прылад і аўтаматаў? Але з другога боку, калі б не чалавек, ці былі б гэтыя прылады? Якраз у гэтай велізарнай выставачнай зале думаецца аб тым, што чалавек з'яўляецца крупінкай, але розум і навука робяць яго вялікім, калі накіраваны яны на мірную працу, на ўсё тое, што служыць чалавеку, што памагае яму жыць, а не забівае і знішчае.

Люблю глядзець карціны. Захапляцца іх прыгажосцю. Я быў на многіх мастацкіх выстаўках. Але тое, што ўбачыў я ў панараме „Бітвы пад Барадзіно" пераўзышло ўсе мае ўяўленні. Я б там стаяў, хадзіў цэлымі днямі. Я адчуваў сябе ў сярэдзіне бітвы, я чуў запах пораху і дыму, енкі раненых і іржанне паміраючых коней. Я бачыў хвалюючаеся збожжа, я чуў бульканне струменьчыка, мне хацелася падысці і падперці абваліўшыся плот або падаць ранепаму вады.

Я многа ўбачыў у Маскве. Маскоўскі красавік паказаў нам, якой павінна быць ўласцівая дарога людзей да перамог і дабрабыту.

Яшчэ і цяпер у маіх вушах гучаць словы і мелодыя цудоўнай песні „Масква мая, ты самая любімая".

**Уладыслаў Скаржынскі**




МАЛАКО ЛЕТАМ

Наступіла гарачая пара года. Гарачая яна не толькі па тэмпературы, але і па працы селяніна. А есці трэба. Паколькі пры мясе можа быць работы шмат, ды есці цяжкастраўную патраву ў гарачыню не хочацца, прапануем ужываць як найбольш малочных блюд.

**Малочны кісель**

На 3 шклянкі малака ўзяць 3 лыжкі цукру, кавалак ваніліну, 3 чайныя лыжачкі крухмалу.

Паўшклянкі халоднага малака вымяшаць з крухмалам. Рэшту малака закіпяціць з цукрам, а пасля гэтага дадаць ванілін. Загусціць малако размешаным крухмалам. Разліць кісель у місачкі, пасыпаць зверху цукрам, дзякуючы якому паверхня кісялю не будзе сохнуць. Падаваць з сокам з ягад ці фруктаў.

**Малочны суп „ніц"**

На 1 літр малака ўзяць 3 яечкі, 3 лыжкі цукру, ванільны цукар, або кавалак ваніліну.

Жаўткі сцерці з цукрам, з бялкоў збіць цвёрдую пену, дадаючы ў канцы збівання лыжачку цукру. Закіпяціць малако і класці на кіпяток лыжкай вялікія клёцкі з пены. Калі клёцкі зварацца, выняць іх цадзакам і ўлажыць у асобную місачку, а гарачае малако ўліваць пакрысе ў сцертыя з цукрам жаўткі, увесь час мяшаючы. Дадаць ванільны цукар і ўліць малако з жаўткамі ў місачку з клёцкамі. Падаваць гэты суп халодным. Можна яго падаваць з пячэннем.

**Халаднік з кіслага малака**

На 1 літр кіслага малака ўзяць пучок маладых бурачкоў, 2 яечкі, пучок радыскі, пучок зялёнай цыбулькі, укроп, соль.

Маладыя бурачкі памыць, дробна нарэзаць разам з лісткамі, кінуць у дзве шклянкі кіпятку і варыць тры мінуты. Пасля гэтага заквасіць лімоннай кіслатой і астудзіць. Нарэзаць радыску, цыбулю, укроп. Яечкі павінны быць крутыя, парэзаць кожнае на чатыры часткі. Кіслае малако разбіць, дадаць зварыныя бурачкі, нарэзаную радыску і зелень, заправіць па смаку соллю і цукрам, дадаць яечкі. Вельмі смачна з бульбай.

**Жэле (галярэтка) з кіслага малака**

На літр кіслага малака бярэм 4 лыжкі цукру, ванілін, 3 чайныя лыжачкі жэлаціну.

Жэлацін заліць кіпячонай халоднай вадой (паўшклянкі), а калі набракне, падагрэць, пакуль аж закіпіць. Свежае, непарастаўшае кіслае малако разбіць з цукрам і ванілінам, дадаваць павалі жэлацін і некалькі мінут яшчэ мяшаць. Да жэле можна дадаць некалькі дробна пасечаных арэхаў ці міндалін альбо крыху трускалак.

**Гаспадыня**

Д. МАРОЗАЎ

# КРАХ АПЕРАЦЫІ „ЦЫКЛОН"



### „ЦЫКЛОН" ЗАРАДЖАЕЦЦА Ў ПЕРАДГОР'ЯХ

Восень у Прыкарпацці яшчэ толькі пачалася, але ўжо адчувалася і ў яркім блакіце вераснёўскага неба, і ў золкім дыханні ранішніх туманаў.

„Пакуль сонца ўзыйдзе — раса вочы выесць", — успомнілася Міколу Скляному. Захінуўшы як мага шчыльней кажушок, ён прабіраўся праз расістыя кусты. Халодныя кроплі, абпальваючы, лезлі за каўнер.

Дзякуй яшчэ, гэта баба кажух пазычыла, а то ў абвераўскім пінжаку і зусім бы душу богу аддаў! Вось пройдзешся кіламетраў пяць туды ды столькі ж назад скрозь гушчар, ды ноч у лесе пасядзіш. Старая, хоць і ведзьма, а выручыла.

Скляны падняўся, нарэшце, на вяршыню зарослага лесам і хмызняком узгорка, адсюль было відаць далёка навокал. Па баках, быццам статак калматых зялёных мядзведзяў, груваціліся адзін на адзін узгоркі. Спакойна ўсё, быццам няма і не было ніякай вайны, быццам у двухсот кіламетрах на поўдзень і на захадзе не гуў тысячамі гармат фронт. Вось яно як павярнулася. Хутка кацяўся фронт на захад. А тут, на занятай савецкімі войскамі тэрыторыі, ужо аднаўлялася нармальнае жыццё.

Над узгоркамі пачуўся нетаропкі рокат самалёта. Скляны схаваўся пад галінкамі бліжэйшага дуба. Нізка над зямлёй ішоў „У-2", паштовы ці разведчык. Там, уверсе, яго ўжо асвятляла ўзышоўшае сонца, чырвоныя зоры пераліваліся на плоскасцях. Мікола прадзіў яго насцярожаным позіркам. Насіў калісьці і ён такую ж зорку на пілотцы. І называўся тады чырвонаармейцам. Як быццам нядаўна гэта было: усяго тры гады назад, а здаецца — прайшла цэлая вечнасць. Колькі падзей: палон, лагер, потым атрад карнікаў і школа гестапа пад Вінніцай. Так, далёка ён адышоў ад чырвонай зоркі. У палон Мікола здаўся па добрай волі. Яму, выдатнаму радыёмайстру з Львова, вайна з фашыстамі здалася тады зусім пабочнай справай. Але, паспытаўшы лагернага жыцця, ён выршыў, што яму выгадней поўнасцю перайсці на бок гітлераўцаў, чым мучыцца ў лагеры. Так ён трапіў у дыверсанты. І вось паўтара года страх перад расплатай гоніць яго ўсё далей і далей па гэтай дарозе. Цяпер ён вопытны, бывалы радыст-дыверсант.

Цяперашняя аперацыя не падабалася Скляному — вельмі далёка іх закінулі за лінію фронту. Праўда, і група немалая — трыццаць чалавек. Але што такое нават тры дзесяткі абвераўскіх агентаў, якія б'юцца з упартасцю асуджаных? Чэкісты не з ліку нясмелых. Скляны гэта ведаў.

Мікола паглядзеў на ўсход, яшчэ кіламетра паўтара засталося да лагера групы. Спрактыкаваным вокам з вяршыні ўзгорка ён праклаў дарогу праз кусты і, асцярожна чапляючыся за галінкі і ствалы, пачаў спускацца з крутога схілу. Ногі слізгалі па мокрай траве.

Добра, хоць не кожны дзень трэба прыходзіць у групу. За ўвесь тыдзень, што група ў зборы, ён з'яўляўся усяго два разы. Жыве Мікола, прытаіўшыся на глухім хутары, у скваплівай негаваркой старой. Праўда, ён адразу знайшоў з ёю агульную мову, прапанаваўшы ёй на выбар нямецкія маркі, польскія злоты і савецкія рублі. Старая доўга думала, а потым узяла за пастой адразу ў трох валютах.

— Хоць што-небудзь ды — застанецца, — заключыла яна.

Калі Скляны расказаў аб гэтым часоваму камандзіру групы лейтэнанту Кругеру, той доўга рагатаў:

— Па-мойму, яна ведзьма! На рускіх хутарах заўсёды жывуць ведзьмы, прыглядзіцеся да яе!

Аднак ведзьма прыняла Міколу зусім нядрэнна і нават вось пазычыла яму стары кажух, які так грэе халоднымі начамі, калі Скляны, седзячы часам у лесе ля пераноснай рацыі, вылоўлівае з далёкага эфіру пазыўныя радыёстанцыі абвера.

Сёння ноччу ён атрымаў асабліва важнае ўказанне з дабаўленнем тэрмінова перадаць яго лейтэнанту Кругеру. Вось з-за гэтага і давялося з самага ранку цягнуцца скрозь мокрыя кусты.

„Пакуль сонца ўзыйдзе — раса вочы выесць", — зноў успомнілася яму.

— Ох, выесць, — уздыхнуў Скляны і пачуў нягучны воклік ззаду, з-за кусту:

— Стой!

Скляны ўздрыгнуў і спыніўся, падняўшы рукі ў гору.

— Кладзіся.

Скляны лёг, стараючыся праглынуць тугі камяк, які падступіў да горла. Штосьці ўжо вельмі чыста голас гаворыць па-руску. І толькі калі чалавек выйшаў з-за кустоў, страх прайшоў. Лейтэнант Радэншток таксама пазнаў Скляногa.

— Што гэта ты на сябе начапіў, Іван? — спытаў лейтэнант. У групе ўсе немцы звалі Скляногa Іванам.

— Гэта рускі скураны пінжак, — адказаў Мікола. — Вядзіце мяне да пана лейтэнанта Кругера. Я атрымаў важную радыёграму сёння ноччу. Загадана перадаць яе тэрмінова. А вы напалохалі мяне, вельмі ўжо чыста гаворыце паруску.

Радэншток задаволена ўсміхнуўся. Яны прайшлі між кустоў да добра замаскіраванага лагера дыверсійнай гру-

# Дубіла Клім

Дубіла Клім нядаўнім часам
Падэшвы клеіў і абцасы;
Дзе там цвічок, а дзе там латка —
З усіх бакоў прыгожа, гладка.
Яму і гонар, і падзякі,
Руку паціснe яму ўсякі.
І ўсміхнецца, скажа: „Браце,
Прынёс ты радасць нашай хаце;
Такія туфелькі, фасон! —
Ад жонкі вам маёй — паклон...“
Гавораць так яму кліенты,
А ён: „Не трэба кампліментаў!“
Дубіла той у свой чарод
Казаў усё наадварот:
„Раблю яшчэ я дрэнна, братцы,
Яшчэ мне трэба пастарацца...“
І ён стараўся, майстар гэты.
(Аб ім пісалася ў газетах).
На ўсіх нарадах — першы ён,
Шавецкай справы чэмпіён.
— Дубілу слава! — кліча сход,
Дубіла Клім — наадварот:
„Раблю яшчэ я дрэнна, братцы,
Яшчэ мне трэба пастарацца...“

Ён сапраўды быў майстар лепшы,
Ды не лічыў сябе у першых.
Ён сціплы быў, Дубіла Клім,
Ды толькі справа тут не ў тым...

Аднойчы з лёгкае рукі
Яго ўзвялі ў кіраўнікі.
Начальнік цэха! Тут не жарт!
Патрэбна вытрымка і такт.
Дубіла Клім не ўтрымаўся —
Праз колькі часу ён зазнаўся.
Пачаў грубіць і выхваляцца —
Маўляў, галоўны я ў працы!
Дубілу ветліва сказалі:
„Вы, Клім, з людзьмі не працавалі.
Пагарачыцца можна часам,
Але ж людзьмі, то не з абцасамі...“

„Я вінават, прабачце, братцы,
Я буду, братцы, выпраўляцца...“
Але не змог Дубіла Клім
Паладзіць з гонарам сваім.
— Дубілу ганьба! — кліча сход,
Дубіла Клім — наадварот:
„Я вінават, прабачце, братцы,
Я буду, братцы, выпраўляцца...“

Дубіла Клім ужо тым часам
Падэшвы клеіць і абцасы...
Дзе там цвічок, а дзе там латка —
З усіх бакоў прыгожа, гладка.
Яму зноў гонар і падзякі,
Руку паціснe яму ўсякі...

* * *

Сваёй работай ганарыся —
Не ў свае сані не садзіся.

**Міхась Пянкрат**

# НІЎКА




*— На жаль, не магу яго затрымаць — маё дзяжурства скончылася пяць хвілін назад.*

### УСЁ РОЎНА

Вася прыйшоў у хлебны магазін.

— Дайце мне, калі ласка, хлеба, — звярнуўся ён да прадаўца.

— Якога — белага ці чорнага?

— Ды ўсё роўна!.. Я бяру для бабулі, а яна дрэнна бачыць.

### КРЫХУ ПАРАЗУМНЕЎ

— Як твой чалавек, Ганна, — усё такі ж?

— Ды не, крыху паразумнеў: раней, бывала, пасля першай жа чаркі пачынае дурэць, а цяпер хіба што пасля чацвертай...

### НЕ НАПАЛОХАЎ

Галоўны бухгалтар гандлёвай базы дакладвае свайму начальніку.

— Бяда, гарым! Да нас едуць рэвізоры!

— Няхай едуць, мы іх шапкамі закідаем..., Пыжыкавымі.

### ШТО ДУМАЎ

Адзін гандляр прадаў свайму калегу вялікую партыю яблык. Праз некалькі дзён той яму патэлефанаваў і з абурэннем сказаў:

— Чорт вазьмі цябе і твае праклятыя яблыкі! Іх жа немагчыма есці!

— Есці? — перапытаў гандляр. — А я думаў, што ты будзеш іх прадаваць!





**...Знайшоў выхад з тупіка, але ён аказаўся ўваходам у лабірынт.**

**...Хадзіў па добра пратаптанай сцежцы, а гаварылі пра яго: „Збіўся з дарогі“.**

# ЧАРГА

**Першы.** Выбачайце, можна даведацца ў вас, чаму вы тут стаіце?

**Другі.** Я стаю ў чарзе.

**Першы.** У чарзе? Але я не бачу тут ніякай чаргі. Стаіце толькі вы адзін.

**Другі.** Я стаю адзін, бо я першы.

**Першы.** Цікава... Чаму ж чарга на пустым месцы?

**Другі.** Цяпер месца пустое, ды горад жа расце. Напэўна тут нешта пабудуюць.

**Першы.** А што тут пабудуюць?

**Другі.** Гэтага я яшчэ не ведаю.

**Першы.** А калі не ведаеце, навошта ж стаіце ў чарзе?

**Другі.** Не ведаю, цяжка сказаць. Але чаргу заняць не шкодзіць. Можа, пабудуюць нейкі магазін, на адкрыццё могуць выкінуць дэфіцытныя тавары.

**Першы.** Дык не абавязкова ж тут будзе магазін.

**Другі.** Вядома. Можа быць, і якая-небудзь установа. Тады ўдасца першым уладзіць у ёй свае справы.

**Першы.** Добра, а калі на гэтым месцы нічога не пабудуюць?

**Другі.** О, на гэты выпадак я таксама сябе засцярог. Я ўжо заняў чаргу яшчэ ў некалькіх такіх месцах...

*Януш Асэнка*

ПЕСНІ ПА ЗАЯЎКАХ

Па просьбе Віктара Харытанюка з Цялушак Бельскага павету змяшчаем песню

## TAKIE ŁADNE OCZY

Ładne oczy masz, komu je dasz
takie ładne oczy, takie ładne oczy.
Wśród wysokich traw głęboki staw,
jak mnie nie pokochasz, to się w nim utopię.
W stawie zimna woda, trochę będzie szkoda,
Trochę będzie szkoda, gdy utopię się w nim.

Powiedzże mi jak odgadnąć mam,
czy mnie będziesz chciała,
czy mnie będziesz chciała.
Przez zielony staw łabędzie dwa
grzecznie sobie płyną...
Czy mnie chcesz dziewczyno?
W stawie zimna woda, trochę będzie szkoda,
trochę będzie szkoda, gdy utopię się w nim.

Inne oczy masz każdego dnia,
diabeł nie odgadnie, co w nich chowasz na dnie.
Przez zielony staw przeleciał wiatr,
po rozległej toni fala falę goni.
W stawie zimna woda, trochę będzie szkoda.
Komu będzie szkoda, gdy utopię się w nim.
Ładne oczy masz, komu je dasz
takie ładne oczy, takie ładne oczy...

### ПРЫВЫЧКА

Спрачаюцца двое сяброў. Першы гаворыць, што ў жыцці выпадковасцей не бывае, а бываюць толькі закапамернасці, другі ж сцвярджае адваротнае:

— Адзін мой знаёмы ў дзяцінстве ўпаў з трэцяга паверха і не разбіўся. Выпадковасць? Выпадковасць! Ужо ў сталым узросце ён вываліўся з дзевятага паверха. Зламаў нагу, але застаўся жывы. Выпадковасць? Выпадковасць! А нядаўна ён трапіў у аўтамабільную катастрофу. Шафёр — насмерць, а ён жывы! Выпадковасць? Выпадковасць!

— Не, хутчэй гэта ўжо прывычка..

# МІНІБАЙКІ

### НЕ КАПАЙ ДРУГОМУ ЯМЫ...

Вырашылі краты запрасіць спецыяліста па капанню ям. „Хай ён нам вочы адкрые!“ Запрасілі барсука. Ён патрабаваў кватэру. Выкапалі яму краты кватэру. Пасяліўся барсук з барсучыхай і барсучыным сынам, а ад пасады адмовіўся. Перадумаў.

Мараль: не капай другому яму, хай лепш ён сам сабе капае.

### САРАКАНОЖКА

Сараканожку ўладкавалі ў абутковы магазін. Адзін раз абулася — і пад суд.

Што ж тады гаварыць аб чалавеку? У сараканожкі сорак ног — і то спатыкаецца.

*М. Азаў, У. Ціхвінскі*



# Курёзы

### ТЭОРЫЯ ІМАВЕРНАСЦЕЙ ПЕРАМАГЛА

Недастатковы ўзровень ведаў заўсёды з'яўляецца крыніцай усялякага роду праблем. У гэтым мог асабіста пераканацца нейкі Раймонд Шнайдэр з Чыкага, які ў свой час не вывучыў асноўныя палажэнні тэорыі імавернасцей. Здабыўшы чысты бланк грашовага чэка, Шнайдэр вырашыў „атаварыць“ яго ў найбліжэйшым банку. Паколькі на чэку трэба было ўказаць прозвішча і адрас, дык жулік, які не вылучаўся багатай фантазіяй, узяў тэлефонную кнігу і выпісаў адтуль першае трапіўшаеся на вочы прозвішча. Затым ён запоўніў чэк на добрую суму і абыякава падаў яго касіршы ў акенца. Тая, убачыўшы на чэку прозвішча і адрас свайго ўласнага мужа, на хвілінку разгубілася, а потым уключыла сігналізацыю трывогі. Містэр Шнайдэр адправіўся ў наручніках у паліцэйскі ўчастак. Там яму ветліва вытлумачылі, што падобная выпадковасць у тэорыі імавернасцей матэматычна выражаецца адносінамі 1:1 000 000.

### КАНГРЭС ЛЫСЫХ..

...адбыўся ў французскім горадзе Сен-Савене. У ім прымалі ўдзел прадстаўнікі лысых з Францыі, Швейцарыі і Італіі. Пасля бурлівых дэбатаў і дакладных памераў ганаровае званне „Караля лысых“ атрымаў француз Клебер Гало. Паверхнасць яго лысіны складае 384 квадратных сантыметраў. Адначасова Гало атрымаў тытул „Найпрыгажэйшай лысіны Францыі“.



**Не дазваляй дрэнным людзям ашукваць сябе: навокал столькі харошых!**